**Выдавец:**
Прыватнае прадпрыемства «Дарога на Вільню плюс», пасв. №391053932, выд. 12.10. 2009 г. Глыбоцкім РВК.
Перыядычнасць – 1 раз на тыдзень, дзень выхаду – чацвер.

**Выдаецца са снежня 1994 года**

**№ 15 (783) 9 красавіка 2015 года.**
**Кошт свабодны.**

Штотыднёвая газета

# Вольнае Глыбокае

vglybokaye@tut.by

## Са светлым святам Уваскрашэння Хрыстова!

Фота Ул. Скрабатуна.



## Барысу Кіту, колішняму вязню глыбоцкай турмы, а потым сусветнавядомаму навукоўцу, – 105 гадоў!



**Барыс Кіт нарадзіўся 6 красавіка 1910 года ў Санкт-Пецярбургу ў сям'і служачага Міністэрства пошт і тэлеграфаў, беларуса па нацыянальнасці.**

Пачатковую адукацыю атрымаў у Навагрудскай гімназіі.

У 1933 годзе скончыў Віленскі ўніверсітэт са ступенню магістра матэматыкі. Яшчэ студэнтам 3-га курса ўніверсітэта, стаў выкладаць матэматыку ў Віленскай беларускай гімназіі, а ў 1939 годзе яго прызначылі дырэктарам гэтай гімназіі.

Быў рэпрэсаваны польскімі ўладамі, сядзеў у розных турмах — за Грамаду ў Навагрудку, на Лукішках за справу Таварыства беларускай школы.

У 1940 г. заняў пасаду акруговага інспектара Баранавіцкай навучальнай акругі, арганізаваў пачатковыя і сярэднія школы ў Баранавіцкім, Слонімскім, Валожынскім і Ваўкавыскім раёнах. Аднавіў Беларускую гімназію ў Навагрудку. Быў актыўным удзельнікам беларускага нацыянальнага руху ў Заходняй Беларусі.

Пры гітлераўскай акупацыі ратаваў беларускую моладзь ад вывазу ў Германію.

У часе вайны Барыс Кіт выкладаў у Пастаўскай настаўніцкай семінарыі. Быў арыштаваны нібыта за сувязь з партызанамі. Больш за месяц адсядзеў у камеры смяротнікаў глыбоцкай турмы.

Пасля вайны эміграваў.З сярэдзіны 1960-х удзельнічаў у касмічных праектах.

Імя Барыса Кіта закладзена ў "капсулу часу" лепшых навукоўцаў сусветнай касманаўтыкі, замураваную ў сцяну амерыканскага Капітолія і будзе адкрыта нашчадкамі толькі праз 500 гадоў. Такога ганаровага жэсту ў ЗША ўзнагароджваюцца людзі, якія маюць адмысловыя заслугі перад краінай.

У наш час пражывае ў Франкфурце-на-Майне (Нямеччына).

## МНС інфармуе

**на 07.04.2015 года:**

**Віцебская вобласць:**
Пажараў – 236;
Гібель людзей – 42, з іх 0 дзяцей;
**Глыбоцкі раён:**
Пажараў – 9;
Гібель людзей – 1, з іх дзяцей няма;
Урон –172 млн. руб.

ISSN 2077-8023



### Верхнядзвінскі раён

# І мыш не праскочыць

■ Станіслаў Раманчук.

**Нягледзячы на пастаянную пільнасць беларускіх пагранічнікаў і мытнікаў, зламыснікі не спыняюць спроб рознымі спосабамі правесці праз дзяржаўную граніцу кантрабандны тавар.**

Вось і ў Верхнядзвінскім раёне супрацоўнікам Віцебскай мытні сёлета вясной удалося спыніць некалькі намераў нелегальна правесці ў Латвію цыгарэт на агульную суму 87 млн. рублёў. З нядаўняга часу рабіць такія манёўры будзе ўвогуле бесперспектыўна, бо на абноўленым міжнародным пункце пропуску "Грыгароўшчына" адкрыўся сучасны інспекцыйна-даглядавы комплекс. Па форме ён нагадвае звычайны ангар, але з электроннай начынкай, якая дазваляе хутка сканіраваць характар грузаў, нават не заглядваючы ўнутр фуры. Неабходныя сродкі ў суме 2,5 млн. еўра беларускаму боку прадаставіў Еўрасюз, падобныя комплексы з'явіліся таксама раней і на іншых пунктах пропуску з дзяржавамі ЕС. Вось і ангар тут абсталявалі неабходнымі рэнтген-устаноўкай і памяшканнем для працы апаратараў. На тое, каб поўнасцю адсканіраваць і праверыць, ці адпавядае груз параметрам, заяўленым у дакументах перавозчыкаў, на афармленне машыны адводзіцца толькі ад 15 да 20 хвілін. Дагэтуль прыходзілася грузавы фургон ускрываць і фізічна аглядаць гадзінамі, што канкрэтна перавозіць вадзіцель і ці не схаваў ён дзе-небудзь кантрабанду. Здараліся выпадкі, што ў выпадках выяўлення кантрабанды дагляд зацягваўся яшчэ болей, груз выгружалі поўнасцю і канфіскоўвалі. Цяпер пропуск грузаў адбываецца па міжнародных стандартах, а на беларускай тэрыторыі пункта пропуску таксама правялі неабходную рэканструкцыю.

### Пастаўскі раён

# Палкоўнік – падпальшчык

■ Кастусь Александровіч

**Кожны год з наступленнем цёплых веснавых дзён у Беларусі наступае чамусьці вельмі напружаны пажаранебяспечны перыяд.**

Сёлета ў сакавіку на тэрыторыівобласціправодзіўся месячнік па навучанні насельніцтва правілам супрацьпажарнай бяспекі, аднак былі зафіксаваны 434 выпадкі пажараў сухой расліннасці, агонь забраў жыцці яшчэ двух чалавек і знішчыў 32 розныя пабудовы. Вогненная стыхія з-за падпалу леташняй травы ў вёсцы Фалевічы, што ў Пастаўскім раёне, толькі цудам не нарабіла бяды, бо тут магла з'явіцца нават другая "Хатынь". У той дзень, як высветлілася потым, захацеў навесці парадак з дапамогай агню ля роднай хаты ўраджэнца гэтых мясцін і па іроніі лёсу палкоўнік запасу з Расіі, які служыў менавіта ў падраздзяленнях Міністэрства па надзвычайных сітуацыях РФ. Аднак ён не ўлічыў, што надвор'е было моцна ветраным і вогнішча з хуткасцю пайшло на пабудовы. У выніку былі моцна пашкоджаны агнём лазня, сам дом і гаспадарчыя пабудовы. На шчасце, падаспела тэхніка, прарыла абарончы вал і не дала агню распаўсюдзіцца далей. Аднак і на Пастаўшчыне сёлета статыстыка веснавых палаў зноў трывожная. За некалькі дзён тут зафіксавалі сёлета вясной 49 пажараў сухой травы і кустарнікаў, згарэлі 3 дамы. Толькі ў ваколіцах райцэнтра пажарным прыйшлося 13 разоў выязджаць на тушэнне палаў і толькі на 2 разы меней у гарпасёлку Варапаева. Летась у выніку спальвання сухой травы загінула пенсіянерка з гарпасёлка Лынтупы, а некалькі гадоў назад знайшлі паблізу горада пасярод такога палу труп яшчэ не старога мужчыны.

### Глыбоцкі раён

# Падрастае дастойны рэзерв

■ Чэслаў Якубовіч.

**Вось ужо некалькі дзесяцігоддзяў айчынная школа цяжкай атлетыкі даказвае з поспехам, што ў Беларусі шмат жыве сапраўдных асілкаў і тут рыхтуюць пастаянна спартсменаў высокага міжнароднага ўзроўню.**

Пасля трыумфальнага выступлення глыбачанкі Марыны Шкерманковай на летніх Алімпійскіх гульнях у Лондане інтарэс да гэтага віду спорту павялічыўся сярод мясцовых юнакоў і дзяўчат. Адразу некалькі выхаванцаў Глыбоцкай ДЮСШ уключылі ў склад зборнай каманды Віцебскай вобласці, якая стала пераможцам спаборніцтваў цяжкаатлетаў па праграме Алімпійскіх дзён моладзі Беларусі. Гэтыя спаборніцтвы праходзілі днямі ў горадзе Пінску, а глыбачан рыхтаваў да адказных стартаў трэнер Сяргей Сімановіч. Званне мацнейшай у Беларусі сярод юніёраў ва ўзросце да 17 гадоў у вагавай катэгорыі да 69 кг заваявала Анна Бахір. Гэты поспех асабліва важкі, бо на рэспубліканскі турнір перспектыўная штангістка паехала з пашкоджаным каленам, але траўма не перашкодзіла ёй заваяваць званне чэмпіёнкі. У адным кроку ад верхняй прыступкі п'едэсталу гонару спыніўся ў больш цяжкай катэгорыі (да 94 кг) глыбачанін Андрэй Арлёнак. Сярэбраны медаль яму прынесла паказаная сума 306 кг у двухбор'і, а ў штуршку яму ўдалося падняць штангу вагой 165 кілаграмаў. З бронзавым медалём вярнулася дамоў і Маргарыта Лешчанка. Яна выступала ў лёгкай вагавай катэгорыі (да 53 кг) і змагла зафіксаваць у лепшых падыходах агульную суму 140 кг. Паспяховае выступленне і іншых атлетаў з Прыдзвіння дазволіла зборнай вобласці перамагчы ў агульнакамандным заліку, абысці і прызнаных фаварытаў, аднагодкаў са сталіцы.

**Надвор'е ў Глыбокім** www. rp5ru

| | Чацвер 09.04.15 | | | | Пятніца 10.04.15 | | | | Субота 11.04.15 | | | | Нядзеля 12.04.15 | | | | Пан. 13.04. | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мясцовы час | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 |
| Хмарнасць | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Ападкі | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Тэмпература | 0 | +3 | +9 | +4 | +1 | +2 | +9 | +6 | +3 | +2 | +10 | +5 | +5 | +8 | +8 | +5 | +3 | +4 | +10 |
| Ціск | 751 | 753 | 753 | 751 | 749 | 749 | 750 | 750 | 749 | 750 | 750 | 749 | 747 | 744 | 745 | 746 | 746 | 747 | 746 |
| Вільготнасць | 74 | 79 | 51 | 52 | 74 | 95 | 76 | 80 | 89 | 90 | 65 | 90 | 94 | 89 | 95 | 86 | 93 | 96 | 63 |
| Вецер м/сек | 7 С-З | 7 С-З | 9 С-З | 7 З | 6 З | 6 З | 6 З | 5 З | 5 З | 5 З | 5 З | 2 З | 3 Ю | 5 Ю | 7 З | 5 З | 4 З | 3 З | 5 Ю-З |

# Аб самым надзёным

## ДАЛЁКА НЕ ВЕСНАВЫ СУМНЫ НАСТРОЙ ЦЯПЕР НЕ ТОЛЬКІ Ў ВЯСКОЎЦАЎ, АЛЕ І Ў РАБОТНІКАЎ МНОГІХ АЙЧЫННЫХ ПРАДПРЫЕМСТВАЎ



■ Аляксандр Цішкевіч.

**Тым часам гатовыя запасы непрададзенай прадукцыі на складах айчынных прадпрыемстваў дасягнулі амаль 39 трлн. рублёў (87,5 % сярэднямесячнага аб'ёму вытворчасці). У выніку сёлета з-за негатыўных тэндэнцый у эканоміцы, па ацэнках экспертаў, рэальныя даходы працуючых беларусаў да канца года знізяцца на 20-30 %, на столькі мы з вамі яшчэ збяднеем.**

У гэтым годзе практычна кожны дзень з розных куткоў краіны прыходзяць сумныя паведамленні аб тым, як сур'ёзна пагоршылася эканамічная сітуацыя на тым, альбо на іншым прадпрыемстве. Дарэчы, яшчэ з восені летась сталі пагаршацца справы там, а таксама і ў многіх беларускіх гаспадарках, дзе пайшлі затрымкі выплат зарплаты, а зараз натураплата стала ўжо шмат дзе нормай. У Беларусі пачалася сяўба ранніх яравых культур на поўдні, а ў рэзідэнцыі А. Лукашэнкі правялі чарговую нараду па трывожнай сітуацыі ў сферы АПК, а па выніках першага квартала размова аб тым, што рабіць далей з сельскай гаспадаркай, прадоўжыцца ўжо на ўзроўні трох абласцей, дзе з'явіліся новыя кіраўнікі.

Пра гэта публічна кажуць мала, аднак усё болей відавочна, што нашу краіну напаткаў сур'ёзны сістэмны крызіс. Да прыкладу, у сакавіку эканамічныя суды Беларусі разглядалі справы аб банкруцтве адразу 45 айчынных прадпрыемстваў. Для параўнання, у мінулым годзе ў вытворчасці знаходзіліся толькі 19 падобных спраў, прычым палова з іх прыходзіліся на самыя праблемныя Віцебскую і Магілёўскую вобласці. Раней да ліквідацыі гаротнікаў стараліся справы не даводзіць, звычайна бедныя калгасы далучалі да больш моцных суседзяў, потым пачалі ствараць розныя холдынгі, але стан нашай эканомікі сур'ёзна падкасіў абвал і крызіс у Расіі, ваенныя дзеянні ва Украіне.

Гэта ж вам не жартачкі, што ў пачатку красавіка ўвогуле на 10 дзён спыніць вытворчасць і свой галоўны канвеер сталічны МАЗ. Не лепшая сітуацыя і на суседнім МТЗ, дзе выробленую тэхніку няма куды збываць, людзі сталі меней зарабляць, ужо даўно там забыліся, калі былі рабочыя суботы. Відавочны факт, што і па ўсёй краіне ў доларавым эквіваленце зменшыліся заробкі беларусаў, а гэта азначае, што зменшылася і пакупніцкая здольнасць насельніцтва асабліва на імпартныя тавары, аднак інфляцыя і не думала спыніцца. Мясцовыя бюджэты цяпер выконваюцца з вялікімі цяжкасцямі, многія расходы скарочаны і прыйшлося ўвесці рэжым строгай эканоміі сродкаў.

Як ні горка гэта казаць, але і сама беларуская дзяржава апынулася на "мелі", яна зараз у стане падтрымаць толькі 106 найбольш важных прадпрыемстваў, а вось астатнім неабходна будзе выкручвацца неяк самім, каб выжыць. Аднак давайце ўспомнім, што яшчэ летась па Беларусі звольнілі з працы болей 57 тысяч чалавек, чым потым яны змаглі ўладкавацца на новыя месцы. Значыць, у дадатак да іншых праблем у краіне назіраецца даволі рэзкі рост беспрацоўя, негатыўныя тэндэнцыі толькі ўзмацняюцца ад беларускай сталіцы да ўскраін.

Яшчэ летась у Беларусі больш чым у 2 разы вырасла колькасць працаўнікоў са скарочаным графікам занятасці і накіраваных у вымушаныя водпускі з частковай аплатай, альбо зусім за свой кошт. У пачатку гэтага года ў нашай краіне ўжо штомесяц у незапланаваных адпачынках за свой кошт, альбо толькі па некалькі дзён на тыдні працуюць па сто і болей тысяч чалавек. У далейшым такія вытворчыя драмы будуць, на жаль, павялічвацца і прыкладаў гэтаму хоць адбаўляй. Вось і ўчора адзін з самых паспяховых прадпрыемстваў краіны, завод халадзільнікаў і пральных машын "Атлант" перайшоў на 4-дзённы графік працы, а адразу пасля Радаўніцы спыняецца на 10-дзённыя майскія канікулы. Такую практыку раней ажыццяўлялі многія расійскія заводы, а цяпер відаць надышла і наша чарга.

Тым часам гатовыя запасы непрададзенай прадукцыі на складах айчынных прадпрыемстваў дасягнулі амаль 39 трлн. рублёў (87,5 % сярэднямесячнага аб'ёму вытворчасці). У выніку сёлета з-за негатыўных тэндэнцый у эканоміцы, па ацэнках экспертаў, рэальныя даходы працуючых беларусаў да канца года знізяцца на 20-30 %, на столькі мы з вамі яшчэ збяднеем. Але ж гэта аб'ектыўная рэальнасць, бо краіна яшчэ жыве нават лепей, чым яна рэальна працуе і што вырабляе. Дабрабыт адносны беларусаў дасягаецца за кошт шчодрых знешніх пазык і дапамогі фінансавай і таннымі энергарэсурсамі з боку Расіі. Аднак знешні доўг Беларусі працягвае расці і перавысіў ужо 55 % ВУП.

Зразумела, так доўга працэс марнатраўства і тэптання на месцы працягвацца не можа, тым больш, што і сама Расія адчувае сур'ёзныя цяжкасці. Таму Крэмль і вырашыў толькі перанесці на больш позні тэрмін вяртанне намі дзяржкрэдытаў і выдзеліў яшчэ 110 млн. долараў дапамогі ў расійскіх рублях. Наша ж краіна сёлета павінна выплаціць 4 млрд. USD па замежных даўгах. Афіцыйны курс беларускага рубля апошнім часам крыху ўмацаваўся ў адносінах да долара і еўра. Але гэта, хутчэй усяго, часовая з'ява, бо наша нацвалюта цалкам залежыць ад устойлівасці расійскага рубля (калі прадоўжыцца вайна ў Данбасе і ўзмацняцца санкцыі, то пазіцы абодвух валют могуць пагоршыцца).

## Дзень за днём

**На беларускіх заводах і фабрыках больш чым у 2 разы вырасла колькасць работнікаў з няпоўнай занятасцю, за люты прыбавілася яшчэ 5,2 тысячы беспрацоўных. З-за эканамічных цяжкасцей ужо 115 са 118 раёнаў Беларусі сталі датацыйнымі. Заробкі беларусаў сталі меншыя па памерах, чым пенсіі ў палякаў. Расія вырашыла пралангіраваць дзяржкрэдыт для Беларусі. Па краіне пачаліся першыя прызначэнні сямейнага капіталу. У якасці жэсту добрай волі Еўропа гатова прыняць Беларусь у Балонскі працэс. На платнай аснове будуць лячыць беларускіх алкаголікаў.**

# Важнейшыя навіны свету

**Францыя.** На поўдні краіны ў гарах Альп днём нечакана разбіўся пасажырскі самалёт нямецкай кампаніі, філіяла "Люфтганзы" са 150 чалавекамі і членамі экіпажа на борце.

**Германія.** Пасля катастрофы самалёта А320 нямецкія авіякампаніі і авіякампаніі многіх краін свету ўвялі новыя правілы дзеянняў пілотаў падчас палётаў паветраных суднаў.

**Йемен.** Больш чым на 3 % выраслі цэны на нафту ў свеце пасля пачатку тут вайсковай аперацыі Саудаўскай Аравіі супраць паўстанцаў-баевікоў шыітаў, захапіўшых паўкраіны.

**Егіпет.** Міністры замежных спраў Лігі арабскіх дзяржаў дамовіліся аб стварэнні адзінай арміі для барацьбы з пагрозамі знешняй агрэсіі, падтрымалі ўдар па Йемену.

**Бельгія.** Еўрасаюз адмовіў Грэцыі прада–ставіць крэдыт у суме 1,2 мільярда еўра, раней ЕЦБ прыпыніў фінансаванне грэчаскіх банкаў, бо грэкі сталі масава закрываць свае рахункі.

**Расія.** Вядомы гісторык-пісьменнік Віктар Суvotаў заявіў, што не за гарамі той час, калі абрынецца і развaліцца Расія з-за вымірання рускага народу і дэградацыі яго эліты.

**Галандыя.** Расійскі апазіцыянер, чэмпіён свету па шахматах Гары Каспараў заклікаў дзяржавы ЕС узмацніць санкцыі супраць агрэсіўнай Расіі, яна пагроза ўсяму кантыненту.

**Украіна.** Баявыя дзеянні ў Данбасе зайшлі так далёка, як заявіў першы прэзідэнт Леанід Краўчук, што без новых прамых перамоў з Пуціным там будзе не дабіцца міру.

**Польшча.** Галоўная ваенная пракуратура краіны прад'явіла абвінавачванні двум дыспетчарам аэрапорта Смаленска, дзе вясной 2010 года разбіўся самалёт з прэзідэнтам.

**Літва.** Прэзідэнт Даля Грыбаўскайтэ прапанавала краінам Балтыі быць гатовымі разам да абароны ад пагрозы з Усходу, пакуль на дапамогу не прыдуць асноўныя войскі НАТО.

**Шатландыя.** Упершыню ў Англіі мясцовы банк Clydesdale пачаў выпуск новых палімерных грашовых купюр з пластыку вартасцю 5 фунтаў стэрлінгаў.

**Швейцарыя.** Краіна выйшла на 1-е месца ў свеце па ўзроўні даходаў жыхароў у памеры 6,3 тысячы долараў у сярэднім у месяц, заробкі ў беларусаў толькі на 109-м месцы.

**Англія.** Упершыню ў свеце хірургі клінікі Панварт перасадзілі 60-гадоваму пацыенту памерлае сэрца донара і паспяхова "перазапусцілі" яго для нармальнай дзейнасці.

**Украіна.** На царкоўнай частцы мемарыяльных могілак Севастопаля пахавалі 33-гадовага сына экс-прэзідэнта В. Януковіча, які трагічна ўтапіўся на возеры Байкал.

**Расія.** Па краіне пачалося цкаванне 35-гадовага футбаліста піцерскага "Зеніта" Анатоля Цімашчука, які падтрымаў украінскіх ваенных і адведаў у Кіеве раненых салдат.

# Падзеі, пра якія гаворыць Беларусь

**Мінск.** З-за адсутнасці рухавікоў і збыту на МАЗе прыйшлося часова на 10 дзён спыніць галоўны канвеер, аўтобусны цэх адправіў работнікаў на 14 дзён у вымушаны водпуск.

**Маладзечна.** На сходзе акцыянеры знакамітага камбіната будматэрыялаў "Забудова" аб'явілі аб сваім банкрутстве з-за 288 мільярдаў рублёў даўгоў і пачатку працэдуры санацыі.

**Брэст.** Кожны дзень сёлета мясцовая служба занятасці ставіць на ўлік па 30 і болей беспрацоўных, толькі ў студзені на Брэстчыне звольнілі з працы яшчэ 7 тысяч чалавек.

**Мінск.** Экс-глава Нацбанка Беларусі С. Багданкевіч заявіў, што крызіс у нас справаквалі не толькі Расія, але і ўлады краіны, бо не адкладвалі наспеўшыя структурныя рэформы.

**Бабруйск.** Супраць першага намесніка главы раёна распачалі крымінальную справу за загады падначаленым паказаць прыпіскі па вытворчасці сельгаспрадукцыі ў рэгіёне.

**Шчучын.** На выязным прыёме грамадзян міністр інфармацыі Беларусі Лілія Ананіч паабяцала ўзмацніць адказнасць уладальнікаў сайтаў за абразлівыя "каментарыі".

**Барысаў.** Пасля падпалу сухой травы ў пасёлку Клетнае згарэлі 4 дамы і 8 гаспадарчых пабудоў, па Беларусі за некалькі тыдняў такія палы забралі жыцці 12 чалавек.

**Жлобін.** Расійскія ветэрынары зноў вярнулі на мясцовы мясакамбінат партыю замарожанай ялавічыны ў Іванава, у той дзень не прапусцілі і 2 тоны цыбулі і морквы.

**Мінск.** Рэктар БДУ С. Абламейка прызнаў вялікія цяжкасці з размеркаваннем на працу выпускнікоў-бюджэтнікаў, бо многія арганізацыі адазвалі свае заяўкі на спецыялістаў.

**Іўе.** У суд паступіла крымінальная справа былога главы раёна, ён прызнаў сваю віну ў 20 эпізодах злоўжывання службовым становішчам і кампенсаваў 200 мільёнаў рублёў урону.

**Мсціслаўль.** Раніцай у свінарніку селекцыйна-гібрыднага цэнтра 2012 года пабудовы ў вёсцы Капачы адбыўся пажар, у агні загінулі 265 парасят ва ўзросце трох тыдняў.

**Смаргонь.** Фінансавая міліцыя спыніла незаконны бізнэс 36-гадовага жыхара райцэнтра, які ўвёз з Літвы і прадаў за год праз падстаўных асоб 8 аўто, яму пагражае да 5 год турмы.

**Хоцімск.** Механізатары ААТ "Кастрычнік-Бярозкі" з-за хамскіх адносін да людзей старшыні калгаса адмовіліся ад працы, пакуль райвыканкам не зняў яго з пасады кіраўніка

**Барысаў.** Яшчэ адзін выпадак самагубства адбыўся ў 72-м ваенным вучэбным цэнтры ў Пячах, дзе рахункі з жыццём звёў малады салдат тэрміновай службы.

**Брэст.** Пасля адкрытага ліста адчаю з гракамі і супрацоўнікамі ФК "Дынама" сустрэлася кіраўніцтва вобласці і паабяцала ліквідаваць даўгі па зарплаце за апошнія 8-11 месяцаў.

## Падатковая пра тое, як будуць шукаць «дармаедаў»



■ FINANCE.TUT.BY

**Адзін з галоўных пытанняў, які з'явіўся пасля прыняцця дэкрэта «Аб папярэджанні сацыяльнага ўтрыманства», звязаны з тым, як менавіта ўлады будуць выяўляць «дармаедаў». У Міністэрстве па падатках і зборах FINANCE.TUT.BY растлумачылі, што для гэтага створаць спецыяльную базу дадзеных, з якой можна даведацца, хто працуе, а хто - не.**

«Хадзіць па дварах і кватэрах, каб выяўляць непрацуючых грамадзян, ніхто не будзе, - кажа начальнік галоўнага ўпраўлення падаткаабкладання фізічных асоб Міністэрства па падатках і зборах Міхаіл Расолька. - Прапісана, што на працягу трох месяцаў Саўмін павінен вызначыць парадак узаемадзеяння дзяржаўных органаў і арганізацый у мэтах рэалізацыі гэтага дэкрэта».

Міхаіл Расолька нагадаў, што фізічная асоба сама можа прыйсці ў падатковы орган з 1 жніўня па 31 траўня і заявіць аб тым, што яна не ўдзельнічала ў фінансаванні дзяржаўных расходаў. За гэта грамадзянін атрымае зніжку па выплаце збору «за дармаедства» ў памеры 10%. Тэрмін выплаты збору - не пазней за 1 ліпеня 2016.

Тых, хто не захоча добраахвотна прызнацца ў «дармаедстве» будуць выяўляць «не ўручную, а аўтаматычна». Дзеля гэтага плануецца распрацаваць спецыяльнае праграмнае забеспячэнне, дзякуючы якому з'явіцца база дадзеных аб працуючых і непрацуючых.

«Напрыклад, ВНУ пададуць звесткі пра студэнтаў дзённай формы навучання, Фонд сацыяльнай абароны насельніцтва - аб плацельшчыках узносаў і атрымальніках пенсій і дапамог, арганізацыі - пра сваіх работнікаў і гэтак далей, - кажа Міхаіл Расолька. - У выніку, метадам выключэння мы атрымаем дадзеныя аб тых, хто не працуе і не ўдзельнічае ў фінансаванні дзяржаўных расходаў. Вось гэтыя грамадзяне і атрымаюць паведамленне на выплату збору». Атрымліваецца, што, убіўшы ў базу дадзеных прозвішча грамадзяніна, можна будзе адразу даведацца «дармаед» ён ці не.

Сфарміраваны такі рэестр будзе да канца года. Гэта значыць, першыя паведамленні на выплату новага падатку беларусы атрымаюць не раней студзеня 2016 года.

Акрамя таго, калі высветліцца, што ў непрацуючых грамадзян выдаткі перавышаюць даходы, ім прыйдзецца на працягу 30 дзён прадставіць у падатковую тлумачэнні пра крыніцы прыбытку. Калі тлумачэнні не будуць прадстаўлены, грамадзяніну налічаць яшчэ і падаходны падатак.

Пасля атрымання паведамлення на выплату «падатку на дармаедства» ў грамадзян будзе 30 дзён для таго, каб даказаць свой удзел у фінансаванні дзяржаўных расходаў. Напрыклад, калі грамадзянін не знаходзіўся на тэрыторыі Беларусі больш за 183 дзён, яму трэба будзе прадаставіць доказы: адзнакі ў пашпарце аб рэгістрацыі ў іншай дзяржаве, дамову з замежным працадаўцам, адзнакі аб выездзе-ўездзе, дагавор аб арэндзе кватэры ў іншай краіне і гэтак далей. Такім чынам, калі грамадзянін працаваў на тэрыторыі Расіі нелегальна і без рэгістрацыі, то ў Беларусі ён будзе лічыцца «дармаедам». Нагадаем, за нявыплату збору «за дармаедства» прадугледжаны штраф ад двух да чатырох базавых велічынь або адміністрацыйны арышт.

# Панарама ўнутрыабласных падзей

**Віцебск.** Абласная пракуратура сумесна з Дзяржаўным кантролем выявілі, што выканкамы паўсюдна завышалі кошт жылля, прыватызуемага грамадзянамі, аштрафаваны 38 асоб.

**Полацк.** Работнікам сельгасфіліяла мясцовага райаграсервіса выдалі частку зарплаты з дапамогай выязнога распродажу прадукцыі малочнага камбіната.

**Гарадок.** Гаспадаркі раёна сталі аднымі з самых вялікіх даўжнікоў за камунальныя паслугі, па вобласці такія даўгі АПК перад камунальшчыкамі перавысілі 29 мільярдаў рублёў.

**Віцебск.** На нарадзе ў ветэрынарнай акадэміі па пытаннях прафілактыкі АЧС адзначалася, што да такой бяды жыхары вобласці гадавалі 80 тысяч свіней, цяпер засталося толькі 20 тысяч.

**Мёры.** На абласным семінары па жывёлагадоўлі папярэдзілі, што з 2017 года гаспадаркі не змогуць прадаваць прадукцыю ферм без правядзення ідэнтыфікацыі і рэгістрацыі статку.

**Ушачы.** У раённым вузле электрасувязі ўшанавалі тысячнага абанента эфірнага тэлебачання "ZALA", усяго ж у раёне глядзяць інтэрактыўнае ТБ 3,5 тысячы сем'яў.

**Наваполацк.** Пры выкананні работ на заводзе "Палімір" ААТ "Нафтан" слесар удыхнуў пары сінільнай кіслаты, страціў прытомнасць, упаў і сур'ёзна траўміраваўся.

**Орша.** Суд пакараў 20-гадовага гараджаніна 8 гадамі турмы за нанясенне сваёй бабулі 16 нажавых раненняў толькі за зробленую заўвагу ў доме, што трэба спыніць п'янку.

**Паставы.** Падчас штогадовай акцыі "Тыдзень лесу-2015" паблізу пагранічнага ваеннага шпіталя ў раённым цэнтры заклалі новы парк, малады лес садзілі ва ўсіх лясніцтвах раёна.

**Глыбокае.** У раённым цэнтры міліцыя затрымала 55-гадовага жыхара Полацкага раёна, які перавозіў у спецыяльным патаемным баку машыны звыш 10 тон дызельнага паліва.

**Шаркаўшчына.** Мясцовы ветэрынарны ўрач Уладзімір Касцюкевіч стаў адным з трох пераможцаў абласнога этапа нацыянальнага музычнага конкурсу "Новыя імёны Беларусі".

**Віцебск.** Самы нізкі ўзровень вады за ўсе гады метэаназіранняў зафіксаваны на рацэ Заходняя Дзвіна, галоўная водная артэрыя Прыдзвіння абмялела, закрыты 77 шлюзаў.

**Орша.** У ліку шасці па краіне Міністэрства гандлю Беларусі закрыла за парушэнні і мясцовы магазін ААТ "ДорОрс" гандлёвай сеткі Міністэрства транспарту і камунікацый.

**Расоны.** На падпітку 28-гадовы жыхар раёна прыехаў у госці да знаёмай у Наваполацк, там з кіёска украў ноччу 400 латарэйных білетаў і раздаў іх прахожым.

**Наваполацк.** За вялізныя даўгі яшчэ з 2013 года федэрацыя футбола Беларусі адмовіла ў выдачы ліцэнзіі на ўдзел у нацыянальным першынстве ў вышэйшай лізе ФК "Нафтан".

*Служба інфармацыі "ВГ".*

**Уладзімір Скрабатун**

У межах горада Глыбокае расце хмызняк, які занесены ў "Чырвоныя Кнігі" некаторых краін і многіх суб'ектаў Расійскай Федэрацыі. Настоі з яго пупышак і лісцеў лечаць шматлікія хваробы, у тым ліку і рак скуры.

# Зробім запаведнік у цэнтры Глыбокага?

**Неверагоднае відовішча ў Докшыцах! На даляглядзе, на месцы Глыбокага, зіхацелі ў промнях сонца лядовыя 2-х кіламетровыя горы!**

Што было на месцы Глыбокага 10-15 тысячаў гадоў таму? Была тундра! Пачынаў таяць Валдайскі ледавік, які дасягаў двух, а то й трох кіламетраў таўшчыні. Глыбы лёду, што захраслі ў нетрах зямлі, растаялі, на іх месцы ўтварыліся азёры. І, дарэчы, ледавік той, які прыйшоў да нас са Скандынавіі і скаваў лёдам на дзесяткі тысяч гадоў поўнач Еўропы, у нашым краі не пайшоў далей Варганскай гары. Ад Докшыцаў у накірунку Мінска, заўважце, азёраў няма!

**Колькі азёраў страціла Глыбокае?**

Азёры пачынаюцца з Глыбокага, і, далей – на Поўнач! А ці задумвалася спадарства: колькі азёраў знікла ў межах нашага горада?

Сама меней – тры! Адно з іх – паміж Бегляцом і Кагальным[1]. Іншыя два? Адно – раён Райпаліўзбыта, там і цяпер з шашы Полацк Вільня бачнае балота з рэдкай расліннасцю. У часы ж майго дзяцінства (1960-я гг) там была дрыгва, а зімою мы расчышчалі каток і гулялі тут у хакей. Іншае возера было сіметрычна шашы Полацк-Вільня. Азёры – цяпер дрыгвяністыя балоты – злучаліся ручаінай, дзе ўсё яшчэ вадзіліся ўклейка і піскуны. Ручаіна гэтая, мінаючы мясакамбінат і вул. Садовую, перасякаючы вул. Кірава і Мінскую, упадае і сёння ў Кагальнае возера.



Галінкі бярозы нізкай альбо прысадзістай.

**Сенсацыйнае балота!**

Гэта сёння я не швэндаюся па лясах і балотах – узрост не той, а гадоў 45 таму – куды мяне толькі дапытлівасць не заносіла! Забрыў неяк і ў тое балота (на схеме адзначанае белым пункцірным квадратам), якое сіметрычна шашы адносна балота, што ля Райпаліўзбыта.

Балота – дрыгва! Хадзіш нібы па канапе! Зямля прагінаецца! Былі і "вокны" памерам 1,5-2 метры ў дыяметры, дзе – о, дзіва! – былі яшчэ і лілеі. Так, няма сумневу – некалі гэта было возера, невялікае, памерам са стадыён!

Балота шчыльна зарасло трысьнягом, не прайсці, не прасунуцца! У перамешку з трысьнягом – нейкія дзіўныя кусты, падобныя на кусты парэчак! У рост чалавека. Лісце дробнае, зубчатае, з 2-капеечную манету, галінкі – цёмнакарычневыя. Але на гэтых кустах – "сярожкі", падобныя на бярозавыя, аднак драбнейшыя.

– Бяроза карлікавая?– я быў у захапленні, нібы зрабіў грандыёзнае навуковае адкрыццё. Ніхто не ведае і не падазрае, што я зрабіў знаходку – цэлы гай карлікавай бярозы! Чырвонакніжны хмызняк, які сустракаецца ў нас вельмі і вельмі рэдка на рэліктавых балотах! Расліна – з ледавіковага перыяду! Калі ў нас пасвіліся паўночныя алені і жылі маманты.

Потым – армія, вучоба, размеркаванне, 15 гадоў у Латвіі... Не да балота было!

**Акадэмія Навук не пагадзілася! Але пахваліла за іншае адкрыццё!**

У 1991-м, здаецца, годзе прыехаў у Глыбокае на тыдзень...

–Трэба паведаміць грамадскасці аб гэтым унікальным месцы!– падумаў я. Пайшоў і нарэзаў некалькі галінак, запакаваў у бандэроль і адправіў у рэдакцыю часопіса "Родная прырода"...

Праз колькі часу прыходзіць адказ, але не з рэдакцыі, а з Акадэміі Навук.

*– Гэта – не бяроза карлікавая! Гэта – бяроза нізкая альбо прысадзістая. Бяроза карлікавая расце на балоце Ельня ў Мёрскім раёне.* (У канверце ляжала галінка сапраўднай бярозы карлікавай для параўнання. Лісце ў яе не з 2-х капеечную, а хіба што з 1-капеечную манету)

*– Месца вырастання бярозы нізкай альбо прысадзістай у Глыбокім, як паўднёвы пункт яе распаўсюду, будзе нанесенае на адмысловую мапу,*– адзначалася ў лісце НАН.

На гэтым усё і скончылася! Развальвалася савецкая імперыя! Рэспублікі станавіліся незалежнымі краінамі. Рэарганізацыі, скарачэнні штатаў, стварэнні новых структураў... Усе забыліся.




**Від на Глыбокае з космасу. Фрагмент. Белым пункцірным квадратам адзначанае балота (колішняе возера) з зараснікамі бярозы нізкай альбо прысадзістай.**

**Бяроза нізкая альбо прысадзістая – чырвонакніжная расліна!**

Бяроза прысадзістая занесеная ў Чырвоныя Кнігі суб'ектаў РСФСР: Мардовія (як верагодна зніклы від), Карэлія, Татарстан, Чувашскай і Удмурцкай рэспублік, Разанскай, Уладзімірскай, Калужскай, Кастрамской, Курганскай, Курскай, Ленінградскай, Маскоўскай, Ніжагародскай, Цвярской, Ульянаўскай і Яраслаўскай абласцей.

А як у Рэспубліцы Беларусь?

Паводле пастановы Міністэрства прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя Рэспублікі Беларусь ад 09.06.2014 № 26 – бяроза карлікавая і бяроза прысадзістая занесеныя ў Спіс рэдкіх, а таксама такіх, што знаходзяцца пад пагрозай знікнення на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь відаў дзікарослых раслін, якія ўключаюцца ў Чырвоную Кнігу Рэспублікі Беларусь.

**Робім у Глыбокім унікальны заказнік!**

Так! І ў нас, на Беларусі, бяроза прысадзістая – від, які знаходзіцца пад пагрозай знікнення! Занесена ў Чырвоную Кнігу! Унікальны выпадак, калі на гэтым фоне ў Глыбокім можна зрабіць заказнік! Цэлы гай чырвонакніжнай бярозы прысадзістай!

**Толькі не пытайце ў мяне: "Дзе ўзяць грошы на заказнік?"**

Я ведаю, дзе ляжаць грошы! Глыбокае даўно ўзлезла на еўрасаюзаўскія грошы. Удзельнічае ў розных праектах па экалогіі і турызме. Ну, дык, і лейцы вам у рукі! Пішыце праект на фінансаванне ўнікальнага заказніка, якога няма ні ў Латвіі, ні ў Літве, ні ў Расіі!

**Гэта мусіць быць заказнік у выглядзе парка**

Так! Філіял Глыбоцкага дэндрапарка! А хто лепшы гаспадар? Натуральна, лясгас!

На мой погляд трэба правесці наступныя віды работ (гл. схему справа):

**1)** Устройства вакол балота пешаходнай сцежкі з санітарнай вырубкай вольхі, лазы, бярозы звычайнай абы перадухіліць наступ гэтых магутных дрэваў на балота, якія выцясняюць зараснікі бярозы прысадзістай. Сцежку можна загаціць прадукамі санітарнай рубкі.

**2)** Трэба адрэгуляваць водны баланс, які існаваў тут да правядзення меліярацыйных работ 35-40 гадоў таму – былі выкапаныя каналы для асушэння балота. Трэба стварыць новыя вадаёмы і каналы, але не для асушэння, а для аднаўлення колішняга ўзроўню грунтовых вод. Бяроза прысадзістая расце ж на дрыгвяным балоце! Для гэтага мусіць стаяць рэгулюючая плаціна на канале каля шашы Полацк-Вільня. Гэта можа быць і звычайны вадаспад з бетонных блокаў пэўнай вышыні.

А ў вадаёмах плаваюць гіганцкія карпы і ліні.

Можна яшчэ пафантазіраваць аб палянах уздоўж сцежак, дзе расце такая чырвонакніжная расліна як архідэя балотная, аб малых архітэктурных формах – альтанках, крытых трыснягом, драўляных скульптурах і г.д. Але, галоўнае – захаваць унікальны гай з бярозы прысадзістай, які расце ў нас з часоў вялікага аледзянення, пакінуць нашчадкам, бо такога гаю, перакананы, няма больш нідзе на Беларусі!

**Схема арганізацыі заказніка (прапанова)**




[1] У дагістарычныя часы Бяглец, Кагальнае, Вялікае, Падлазнае і Мушкат – былі адным вялікім возерам.

**Алесь Гай**

# За сокам у Бацілоўшчыну?

**На маю думку, усім вядома аб карысці бярозавага соку. Я ведаю многіх гаспадынь, якія закатваюць у трохлітровыя слоікі па 20-30 слоікаў на зіму. Вялікая карысць і выпіць адну-дзве шклянкі свежага соку. Бярозавы сок закупляюць амаль усе краіны СНД, закупляюць многія краіны далёкага замежжа. Сок бярозавы закупляюць ЗША, Канада.**

Не такія і вялікія затраты на яго нарыхтоўку і перапрацоўку.

Справа не ў гэтым.

А дзе купіць бярозавы сок? Калі ласка, патэлефануйце ў Глыбоцкі лясгас. Там вам вось што адказваюць: "Калі ласка, едзьце ва Узрэчча, Тумілавічы ці ў Бацілоўшчыну".

Смешна думаць, што пакупнік павінен ездзіць ва Узрэчча, Тумілавічы ці Бацілоўшчыну за бярозавым сокам. Вам прапануюць у Бацілоўшчыне за кар'ерам праехаць праз нейкі мост, за мастом прыблізна кіламетр, а мо і больш, ёсць там дзялянка, дзе вы можаце купіць бярозавы сок.

Паважаныя работнікі лясгаса, няўжо пакупнік павінен ездзіць шукаць дзялянкі, каб купіць сок. Можна шмат гаварыць і пісаць пра Глыбоцкі лясгас. Магчыма, гэта адзіны лясгас у вобласці, а магчыма ў краіне, які не мае сваёй піларамы, не мае сваіх дрэваапрацоўчых станкоў. Колькі Прэзідэнт краіны патрабуе не грузіць лес-кругляк. Глыбоцкаму лясгасу гэта да лямпачкі. У раёне "Уторчармета" ёсць чыгуначная ветка – вось тут лясгас і адгружае сваю прадукцыю – лес-кругляк. У многіх лясгасах рэспублікі нічога не прападае: кара, апілкі, шчапа – усё ідзе на перапрацоўку, і гатовыя брыкеты прадаюць за мяжу.

Да чаго гэта ўсё? А справа ў тым, што не такія ўжо вялікія заробкі ў рабочых лясгаса і фінансавае становішча не бляск. Хочацца звярнуцца да кіраўніцтва лясгаса словамі Прэзідэнта нашай краіны: *"Мужыкі, рухайцеся, думайце, як выжыць у гэты цяжкі час, думайце, як зарабляць грошы".*

А прапанова вось якая асабіста і многіх гаспадынь Глыбокага. А чаму Глыбоцкаму лясгасу не даць абвестку ў "Вольнае Глыбокае" і "Веснік Глыбоччыны", што разы два ў тыдзень на малым рынку ці на тэрыторыі лясгаса будзе прадавацца бярозавы сок. Саракалітровы бідон каштуе 72 тысячы рублёў. Не патрэбна быць вялікім фінансістам, што прадаўшы сто бідонаў, гэта 7 мільёнаў рублёў. Вось вам і грошы. Не вялікі сакрэт, што практычна наш Глыбоцкі кансервавы завод "Купцоў"і льнозавод у Падсвіллі банкроты. Складанае ўражанне, што многія кіраўнікі прадпрыемстваў працуюць па законах савецкага часу.

Спадзяемся, што "Вольнае Глыбокае" дапаможа многім глыбоцкім гаспадыням у не такой ужо складанай справе.

# На лісіцу можна паляваць круглы год

**Лісіца заўсёды лічылася каштоўным трафеем за свой незвычайна прыгожы мех.**

■ **В.Е. Катовіч,** *дзяржаўны інспектар Глыбоцкай міжраённай інспекцыі аховы жывёльнага і раслiннага свету*

Калі параўноўваць яе з іншымі драпежнікамі, то гэта не вельмі буйны звер. Дарослы звер можа важыць ад 6 да 10 кілаграмаў, даўжыня можа вар'іравацца ад 60 да 90 см, а вось хвост усяго толькі на 20 см карацей за тулава. Афарбоўка лісы можа вар'іравацца ад вогненна-карычневай да светла-шэрай, гэта залежыць ад асяроддзя пражывання жывёлы. Ліса – даволі прыгожы і распаўсюджаны паляўнічы звер. Лепш за ўсё здабываць звера пасля таго, як лісіца апранецца ў зімовы мех.

Гэты звер у Беларусі распаўсюджаны па ўсёй тэрыторыі. Колькасць лісіц з году ў год неаднолькавая. Гэта можа залежаць ад розных прычын. Прыярытэтным фактарам, які ўплывае на яе колькасць, будзе колькасць мышападобных грызуноў – бо гэта асноўны корм лісіц. Знайсці лісіцу можна ў любым лесе нашай краіны. Гэты звер вядомы сваім хітрым норавам, спрытам, уменнем прыстасоўвацца да розных умоў жыцця. Узімку лісіца стойка пераносіць маразы, харчавацца можа тым, што трапіцца. Жыве ліса ў норах, якія робіць ў ярах або на берагах рачулак. Участкі выбірае з пяшчаным грунтам, і абавязкова, каб іх не залівалі дажджавыя і талыя воды. Нара, як правіла, мае некалькі ўваходных адтулін, якія злучаюцца з гнездавой камерай. Калі ліса карыстаецца нарой не адзін год, то яна ператварае нару ў збудаванне з некалькімі выхадамі або аднорками.

У Беларусі на лісу можна паляваць цэлы год, як ружэйным, так і безружэйным спосабам. Паляванне можна праводзіць з засады, з прынаджваннем, з падыходу, загонам, у тым ліку з паляўнічымі сабакамі. Але тут трэба зрабіць агаворку, з сабакамі можна паляваць толькі ў сезоны і ў тэрміны, дазволеныя для палявання на іншыя віды паляўнічых жывёл, а ў забароненых месцах можна паляваць толькі па паляўнічых пуцёўках на здабычу толькі гэтага віду.

Паляванне з манком пачынаецца ў зімовы час, калі ліса пачынае паляваць не толькі ў начны час, але і днём. Лісу прыцягвае піск мышы, выдаваць яго можна паляўнічаму самому, або выкарыстаць для гэтых мэтаў спецыяльна зробленыя манкі. Гук, які выдаецца паляўнічым, атрымліваецца лепшым, ім прасцей лісіцу падмануць. Падчас палявання з манком трэба памятаць, што ліса вельмі чуткі і зоркі звер. Перш, чым пачаць выдаваць гукі, неабходна падабрацца да звера як мага бліжэй, і, галоўнае, не забываць пра маскіроўку і рух супраць ветру. Валодаючы выдатным нюхам, ліса можа ўчуць чалавека з вялікай адлегласці. Седзячы ў засадзе неабходна выконваць асаблівую асцярожнасць, не рухацца і, па магчымасці, не выдаваць ніякіх гукаў.

Самым распаўсюджаным і выніковым відам палявання на лісіцу будзе паляванне з падыходу, праводзяць яго пераважна ў зімовы перыяд. Таксама шырока ўжываецца паляванне з ганчакамі, загонным метадам і са сцяжкамі. Калі браць паляванне з падыходу, у зімовы перыяд, то павышаецца верагоднасць вызначэння слядоў і нор лісіц. Ветранае надвор'е заўсёды спрыяе паляванню, а ў паляванні з падыходу асабліва, бо гэта дае шанец блізкага падыходу да звера. Шанцы зрабіць удалы стрэл могуць павялічыцца, калі паляўнічы будзе апрануты ў адпаведную экіпіроўку – пажадана ў вопратку, якая не стварае шуму і па колеры падобную з навакольнай мясцовасцю. Тут не варта забываць пра паводзіны і старонніх пахі. Такі від палявання мяркуе своечасовае выяўленне звярка.



Паляванне з акладам, або са сцяжкамі, патрабуе ад паляўнічага вялікага вопыту і добрай арыентыроўкі на мясцовасці. Аклад лепш рабіць пры глыбокім снезе, адразу ж знайшоўшы след лісы. Больш зручна гэта рабіць удвах, тады заходзіць можна з двух бакоў. Сцяжкі павінны размяшчацца на ўзроўні вачэй лісы. Звер павінен добра бачыць сцяжкі, таму трэба выбіраць адкрытыя ўчасткі для іх размяшчэння. Развешваць сцяжкі трэба ў той час, калі лісіца не палюе на мышэй. Яе вельмі лёгка спужаць, таму заняўшы свой нумар, трэба стаіцца і не ствараць старонніх гукаў.

Паляванне на лісіцу мяркуе масу і іншых відаў палявання. Усе яны дапамагаюць развіваць у паляўнічым дысцыплінаванасць, майстэрства маскіроўкі, а таксама дазваляюць назіраць за жывёлай і вывучаць яе звычкі.

Ліса мае важнае гаспадарчае значэнне для чалавека, бо яна скарачае пагалоўе грызуноў, ратуе ўраджаі збожжавых. Так, лісы наносяць страты хатняй гаспадарцы, але яны не супастаўны з той карысцю, якую яны прыносяць, ловячы грызуноў. Але бываюць гады, калі колькасць ліс узрастае ў два – тры разы ў параўнанні са звычайнай колькасцю. З'яўляецца небяспека ўзнікнення шаленства і іншых захворванняў. Для выключэння падобных выпадкаў узнікае неабходнасць рэгулявання колькасці дадзенага віду.

Для гэтых мэтаў па рашэнні карыстальніка паляўнічых угоддзяў могуць выдавацца паляўнічыя пуцёўкі паляўнічым для рэгулявання колькасці лісы, ваўка, янотападобнага сабакі на працягу года кругласутачна, але не пазней за 31 снежня, альбо арганізоўвацца з прызначэннем кіраўніка палявання.

**Аб усіх парушэннях прыродаахоўнага заканадаўства вы можаце паведаміць па тэлефоне даверу 8 (02156) 28670 або на мабільныя тэлефоны: МТС 8-972-302, МТС 8-905-528, МТС 2-494-549, МТС 6-456-678.**

# Толькі пакараннем гэтую праблему не вырашыць

**Беларусь не абдзеленая воднымі рэсурсамі, асабліва Віцебская вобласць, не выключэнне тут Глыбоцкі і Пастаўскі раёны.**

■ **А.В. Протас,** *начальнік Глыбоцкай міжраённай інспекцыі аховы жывёльнага і раслiннага свету*

На тэрыторыі раёнаў размешчана больш за 200 азёр і вадаёмаў, многія з іх знаходзяцца ў найпрыгажэйшых месцах. З кожным годам усё больш аматараў рыбалкі можна сустрэць на нашых вадаёмах, гэта сведчыць аб тым, што ёсць у іх шмат рознай рыбы, можна добра правесці час. Ахове вадаёмаў ад браканьераў супрацоўнікамі Глыбоцкай міжраённай інспекцыі аховы жывёльнага і раслiннага свету надаецца значная ўвага, з дапамогай добраахвотных памочнікаў, простых грамадзян міжраённай інспекцыяй спыняюцца спробы незаконнай здабычы рыбы і іншыя парушэнні прыродаахоўнага заканадаўства. Толькі за сакавік месяц інспектарамі затрымана больш за 10 парушальнікаў.

Немагчыма не закрануць тэму чысціні берагоў нашых вадаёмаў. Ажыццяўляючы лоўлю рыбы, многія рыбаловы пакідаюць пасля сябе горы смецця, пустыя бутэлькі, банкі, пачкі ад цыгарэт. Такіх людзей і рыбаловамі назваць нельга, простыя п'яніцы. Праводзячы кантрольныя мерапрыемствы паблізу населеных пунктаў, інспектары назіраюць вельмі непрыемную карціну: берагавая лінія азёр пасля розных пікнікоў, гулянняў завалена бытавым смеццем, а часам грамадзяне хатняе смецце вывозяць прама ў лес, а не ў кантэйнер для смецця, ператвараючы прыгожыя, дагледжаныя месцы ў чарговую звалку і толькі пакараннем гэтую праблему не вырашыць, без разумення праблемы чысціні азёр, лясоў і дапамогі грамадзян, мы не зможам захаваць унікальную прыгажосць нашых вадаёмаў.





**Смецце ў возера кідаюць не качкі.** *Здымак Змітра Лупача*

З надыходам першых дзён красавіка і ўступленнем у сілу пэўных абмежаванняў усё больш узнікае чутак з нагоды поўнай забароны на лоўлю рыбы. Многія рыбаловы ў паніцы і сцвярджаюць, што лоўля рыбы забаронена наогул, нават адной вудай, але гэта ўсё проста чуткі.

Глыбоцкая міжраённая інспекцыя аховы жывёльнага і раслiннага свету чарговы раз тлумачыць рыбаловам-аматарам. З 10 красавіка па 8 чэрвеня на тэрыторыі Віцебскай вобласці дазволена ажыццяўляць лоўлю рыбы толькі на адну вуду з адным кручком альбо на адзін спінінг, з берага, без заходу ў ваду, з штучных збудаванняў (масткоў, муроў і г.д.). У названы перыяд часу забаронена выкарыстанне плавальных сродкаў усіх відаў і тыпаў.

На тэрыторыі Віцебскай вобласці забаронена лоўля шчупака да 25 красавіка, лоўля судака забаронена з 15 красавіка па 30 траўня.

Нагадваем грамадзянам аб адказнасці за парушэнне прыродаахоўнага заканадаўства.

Так, за знаходжанне грамадзяніна ў рыбалоўных угоддзях з забароненымі прыладамі рыбалоўства (сетка, астрога, нерат і г.д.) прадугледжана адміністрацыйная адказнасць у выглядзе штрафу ў памеры ад 5 да 30 базавых велічынь. За незаконную здабычу рыбы забароненымі прыладамі рыбалоўства адказнасць ад 20 да 50 базавых велічынь з кампенсацыяй шкоды за вылаўленую рыбу.

Па ўсіх пытаннях прыродаахоўнага заканадаўства Вы можаце звярнуцца да супрацоўнікаў міжраённай інспекцыі.

***

**Тэлефоны «гарачай лініі» Глыбоцкай міжраённай інспекцыі аховы жывёльнага і раслiннага свету: 8-02156-28670, 897-23-02, 890-55-28, 249-45-49, 6456678 МТС.**

